# БАЦЬКАЎШЧЫНА

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банкавае конто: Verlag „Baćkaušćyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 32 (262) | Нядзеля 7 жнівеня 1955 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Пасьля Жэнэвы

Мінуў толькі адзін тыдзень, як над чароўным жэнэўскім возерам скончыўся дыпляматычны пікнік гэтак званай «вялікай чацьвёркі». Канфэрэнцыя, як яе добра назвалі «канфэрэнцыяй салодкіх ухмылак і камплімэнтаў», а якая нарабіла столькі шуму ўва ўсім сьвеце, скончылася пад нясьмелы шумок надзеяў у атмасфэры расчараваньня.

Рэч зразумелая, кажная дэлегацыя выяжджаючы заявіла, што была праробленa вялікая работа, што паложаны пад нешта нейкія асновы, што самыя нарады зьяўляюцца «гістарычнай падзеяй...»

Што-ж, трэба было нешта сказаць, каб дадаць павагі гэтаму высокаму зьезду... Аднак ані самыя дыпляматы, ані грамадзкая думка ўсяго сьвету, ня мелі вялікага перакананьня да гэтых заяваў.

Найлепшым доказам бясплоднасьці жэнэўскага пікніку быў факт, што ўвадрозьненьне ад іншых міжнародных сустрэчаў, навет ня быў выданы сумесны камунікат. Адзіным вынікам зьезду «моцных гэтага сьвету» былі нейкія сугэстыі й дырэктывы для наступнай канфэрэнцыі чатырох міністраў замежных спраў, якая мае адбыцца ў кастрычніку. Ведаючы кункрэнцкія здольнасьці й тэхніку ствараньня запораў Молатава, можна прадбачыць, што мы ўваходзім у колькігадовы пэрыяд канфэрэнцыяў і дыпляматычнай валынкі, што якраз, здаецца, патрэбнае Саветам, Доказам гэтага, што жэнэўскі пікнік патрэбны быў крамлёўскім верхаводам, можа быць гэты факт, што на Захадзе ўжо пасьля аднаго тыдня ад зьезду водгукі аб ім слабеюць, тады, калі савецкая прапаганда раздувае гэта зьявішча як гістарычную падзею. Як ня прыкра, але жэнэўскую ігру пакульшто выйграў Булганін. Выйграў не дзеля таго, што гэты стары, рутынаваны чэкісты меў найпрыемнейшую ухмылку, але таму, што, як стары шулер, ехаў у Жэнэву з мэтай надуць сваіх партнэраў.

Прыгледзьмася, як гэта ўсё адбывалася.

Як ведаем, на першым паседжаньні Айзэнгаўэр высунуў сем праблемаў да разгляду кіраўнікамі чатырох вялікіх дзяржаваў. Аднак Булганін зь месца адмовіўся дыскутаваць аб бяспраўным захопе камуністымі краінаў Усходняў Эўропы і дывэрсыйнай дзейнасьці міжнароднага камунізму. А праблемы былі важныя, і трэба было іх разглядзець на гэтай высокай канфэрэнцыі. З прычыны незгаворлівасьці Булганіна павестка дня скарацілася толькі да чатырох пунктаў, а менавіта:

1) нямецкае пытаньне,
2) праблема эўрапэйскай бясьпекі,
3) раззбраеньне і
4) пытаньне кантактаў паміж Захадам і Ўсходам.

Аднак і ў гэтых чатырох пунктах не асягнута нічога пазытыўнага ды канкрэтнага.

Няма сумлеву, што ключом да ўрэгуляваньня эўрапэйскіх праблемаў ёсьць справа Нямеччыны. І спраўдзілася, што мы прадбачвалі: крамлёўскія дыктатары не жадалі і не жадаюць справядлівага разьвязаньня гэтай справы. Хоць савецкая прапаганда крыкліва запэўняла, што аб'еднаньне Нямеччыны ляжыць у інтарэсах камуністычнай палітыкі, Булганін у Жэнэве сказаў, што «яшчэ не дасьпелі умовы для гэтага». Адным словам, камуністыя не згадзіліся на аб'еднаньне Нямеччыны на падставе свабодных і дэмакратычных выбараў. Як бачым, учынкі Булганіна й супалкі не апраўдалі пустазвону іхнае-ж прапаганды.

Адносна эўрапэйскай бясьпекі. Булганін зажадаў, каб заходнія дзяржавы зьліквідавалі ўсе саюзы, адмовіліся ад арганізаваньня НАТО, забаранілі узбройвацца Заходняй Нямеччыне, а за гэта ўсё савецкі ўрад абяцае не пачынаць агрэсіі. Быццам-бы абяцанкі Булганіна могуць мець нейкую рэальную вартасьць.

У справе раззбраеньня Булганін з Хрушчовам дамагаліся забароны вырабляць і ўжываць атамнае аружжа — якраз таго, чаго баяцца крамлёўскія дыктатары. Аднак камуністычныя верхаводы нават не адказалі на прамову Айзэнгаўэра адносна эфэктыўнага кантролю над раззбраеньнем.

Што-ж датычыць кантактаў паміж Усходам і Захадам, дык, хоць Булганін дэклямаваў аб зьліквідаваньні штучных бар'ераў, аднак канкрэтнага нічога не абяцаў. Было відавочным, што калектыўная дыктатура не жадае скручваць зялезную заслону. Бачна, гэта праблема, таксама «яшчэ не дасьпела.. »

Адным словам, апрача прапагандовай дэклямацыі Булганін і супалка ня выявілі ані крыху добрай волі да якогакалечы кампрамісу. Праўду кажучы, яны й ня мелі патрэбы ісьці на кампраміс.

Ня ведаем, ці варта больш затрымоўвацца над вынікамі жэнэўскага зьезду, таму можа лепш разважыць, якія прычыны яго выклікалі, а перадусім, што змусіла савецкі ўрад пайсьці на гутаркі з капіталістычнымі «падпальшчыкамі вайны».

Няма ніякага сумлеву, што калектыўнае кіраўніцтва Савецкага Саюзу ня шчыра і не назаўсёды выраклася ленінскай і сталінскай мэты — апанаваньня ўсяго сьвету. Бо навет ня бачым прычыны зьмены гэтых плянаў. Яно толькі, згодна з навукай Леніна, робіць «крок назад, каб пасьля зрабіць два наперад. Дзе-ж тады хаваецца прычына гэтага? Найважнейшай прычынай ёсьць слабасьць Савецкага Саюзу. Бо хаця савецкая прапаганда бязупынна трубіць аб магутнасьці савецкай арміі й дзяржавы, аб скансалідаванасьці народу навокал партыі, аб узрастаючым народным дабрабыце — сапраўднасьць выглядае зусім інакш.

Адным з паважных сымптомаў слабасьці савецкай імпэрыі ёсьць нутраны крызыс у асяродку ўлады на Крэмлі. З хвілінай сьмерці Сталіна распачалося парадаксальнае зьявішча: Савецкі Саюз стаўся дыктатурай бяз дыктатара. Ніводзін зь цяперашніх савецкіх верхаводаў не дарос заняць сталінава месца на крамлёўскім п'едэстале. Сталін, які змантаваў жудасную машыну тэрору, умеў над ей панаваць і пад ягонай дасьветчанай рукой яна дзеела безь перабояў. У цені Сталіна дынамічны й амбітны, а яшчэ больш гутарлівы Хрушчоў, дасьветчаны чэкісты і адміністратар Булганін, майстар інтрыгі Маленкаў, здольны дыплямат Молатаў, камэрсант Мікаян, жорсткі й таленавіты арганізатар Кагановіч — былі пакорнымі выканаўцамі волі дыктатара. Цяпер-жа яны зайздросна пілнуюць, каб адзін зь іх ня высунуўся зашмат перад другім. Найлепшы прыклад з Бэрыі: калі ён уздумаў перарастаць іншых, яго скарацілі на цэлую галаву. Рэч зразумелая, што гэта калектыўнасьць у дыктатуры ня можа спрыяць рабоце дзяржаўнага апарату тэрору й паслабляе ягоную працу як і страх перад ім. Праўда, і цяпер, як і пры Сталіне, існуюць засьценкі, турмы, лягеры, аднак вычуваецца, што яны ўжо ня ўзбуджаюць такога забабоннага страху, як пры Яжове й Бэрыі. Проста — улада траціць свой аўтарытэт стабільнасьці, таму й ейная прылада — тэрор дзее менш прэцызыйна і сярод тэрарызаваных масаў будзіць надзею на нятрываласьць сыстэмы. Два гады бяз Сталіна ня зьменшылі гэтага крызысу і калектыўнае кіраўніцтва ня можа з гэтым ня лічыцца. Яно мусіла сьцьвердзіць, што далейшае нацягваньне струны міжнароднай напружанасьці магло-б давясьці да катастрофы. Таму затрубіла адбой. На верхавіне піраміды дыктатуры апынулася аж шэсьць чалавек, калі там месца толькі для аднаго. Гэтым здэфармавалася сымэтрыя піраміды, што адмоўна адбілася на сіле ўлады.

Далейшым сымптомам слабасьці дыктатуры, аб якой дыктатары добра ведаюць і што іх змушае часова адлажыць агрэсыўную палітыку зьяўляюцца паважныя недахопы ў савецкай арміі.

Зноў-жа, хоць камуністычная прапаганда трубіць аб нячуванай сіле й магутнасьці арміі, хоць гэта армія сапраўды колькасна найбольшая ў сьвеце — усё-ж ейная рэальная сіла далёка меншая, чымся ёй прыпісвае рэкляма. Перадусім можна ўпэўнена сьцьвердзіць, што Савецкі Саюз далёка адстаў ад Амэрыкі ў галіне атамнай зброі, якая ў сучаснай вайне мае вялікае значэньне. Можа ў будучыні Саветы выраўняюць гэты недахоп, аднак у сучасны мамэнт яны змушаны з гэтым сваім атамным недазбраеньнем лічыцца.

Пасьля сьмерці Сталіна і рэгабілітацыі Жукава ў Савецкім Саюзе прадбачваліся магчымасьці банапартызму і прыходу да ўлады арміі. Аднак гэтага ня сталася. Як бачым, у прэзыдыюме ЦК партыі, гэта значыць там, дзе ўсё вырашаецца — няма аніводнага праўдзівага вайскавіка, калі ня лічыць старога і бязвольнага Варашылава. Ідучы за пры-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# ПРАКАЖАНЫЯ

У бальшавіцкай маралі няма сантамэнтаў. Паводля камуністычнае партыі ўсё марална, што замацоўвае ейную ўладу і што нішчыць сілу ейнага праціўніка — стары прынцып мак'явэлізму. «Маральнасьць не абстрактная, а гістарычная катэгорыя, — кажа савецкі «Кароткі філязафічны слоўнік». — З гледзішча камуністычнае маралі маральна толькі тое, што дапамагае **зьнішчэньню** (падкр. наша) старога сьвету эксплёатацыі й галечы». Нам добра ведама, **што** абазначае ў бальшавікоў «стары сьвет эксплёатацыі й галечы», і яшчэ лепш ведама, што ад свайго халоднага й жорсткага разуменьня правіл і законаў дзеяньня яны ніколі й ня думалі адракацца: «маральна тое, што дапамагае зьнішчэньню...»

І калі раптам у сваіх прапагандовых лятучках «За возвращэніе на Родзіну» энкавэдысты расплакаўся гарачымі сьлязьмі спачуваньня ды разьліўся ў сантымэнтах эвангельскае любові й прабачэньня, дык дзівіцца з такога прыступу пачуцьця шмат ня трэба, бо ўсё гэта поўнасьцяй выясьняецца тэй-жа фармулёўкай камуністычнае маралі: заслугі перад партыяй будуць вымервацца колькасьцяй злоўленых і зьнішчаных ахвяр...

Вельмі характэрна, што нідзе ў сваіх шасьці нумарох газэты «За возвращэніе на Родзіну» ніводзін з гэтых кракадзілаў не напісаў, што, маўляў, МВД ці скажам, сакрэтная паліцыя вам даруе. Не, гэтага яны чамусьці ня кажуць. За іх, чамусьці, дароўвае ўсё «родіна, отечество». Але цікава, **што** здарыцца ў Саветах з тым, хто правініўся не перад Бацькаўшчынай, а перад партыяй, МВД і клікай дыктатараў? Мы, бач, і без «возвращэнія на родзіну» ведаем, што Бацькаўшчына нам даравала. Аднак наконта генэрала Міхайлава з кампаніяй мы ня зусім упэўнены і, нажаль ніякага выясьненьня на гэтую тэму ў ягоным воргане не прачыталі. У гэтым выпадку «За возвращэніе...» упорыста захоўвае магільную маўклівасьць, якая, пэўна-ж, і пахне магілай.

Затое ў газэце пішацца аб чымсьці іншым і, на нашу думку, аб вельмі цікавым. Восьжа аказваецца, што катэгорыя «возвращэнцаў» пачынаецца не ад 1945 году (пасьля трохгадовае агітацыі «беларускіх буржуазных нацыяналістаў» пад нямецкай акупацыяй, як гэта мы па сваёй наіўнасьці часам думаем, а йдзе далёка глыбей, закранаючы сабою асобаў навет сымпатыкаў савецкае ўлады, якія ні ў Польшчы ні пад нямецкай акупацыяй не пападалі пад маральнае руйнаваньне спамінаных ужо «нацыяналістаў». Бо, як даведваемся, навет тыя, што папалі былі ў нямецкі палон і трапілі ў «барбарскую фашыстоўскую Германію» з польскага войска ў 1939 годзе ды пасьля некаторага часу вярнуліся назад пад «сонца канстытуцыі», таксама фігуруюць на сьпісках «возвратівшіхся». Гэты ярлык вісіць пагрозьліва й на тых, што ўжо досыць салідна «павыкупліваліся перад родзінай». І адклеіцца ён ад іх хіба разам з бальшавіцкай дыктатурай або разам з собскім жыцьцём.

У № 6 «За возвращэніе на родіну» на бачыньцы 3-й зьмешчана так званая «Правда о возвратівшіхся; обзор пісем». «Наша рэдакцыя, — хлусіць паліцыйны ворган, — атрымоўвае мноства лістоў ад суродзічаў, што вярнуліся з чужыны. Яны,якія самі яшчэ нядаўна блукалі па чужых краёх у пошуках кавалка хлеба гарацць жаданьнем...» і г. д. У пераліку прозьвішчаў тых, што «нядаўна блукалі па чужых краёх» мы знаходзім і беларускіх савецкіх пісьменьнікаў: М. Даніленка, Макара Пасьлядовіча, Міколу Аўрамчыка і Янку Брыля, узнагароджанага ў 1951 годзе Сталінскай прэміяй за калгасна прапагандовую аповесьць «У Забалоцьці днее». Ніхто з гэтых асобаў эмігрантам пасьля 1945 году ня быў і далей нямецкага палону нічога ня бачыў. Частка зь іх, як толькі змагла (як Я. Брыль), пайшла пры Немцах адразу-ж у савецкія партызаны і не правінілася перад цяперашняй уладай «еже словам, еже делом, еже помышленіем своім». Але бальшавікі маюць ня толькі мараль, яны маюць таксама й добрую памяць і, як кажны праступнік, натапыраныя вушы. Таму яны ніяк ня могуць забыцца пра палон Янкі Брыля й ягоных сяброў, які яны адпакутавалі 15 год таму. Яны «вярнуліся», а значыць, дзесьці былі і штосьці бачылі.

У Саветах няма больш трывалае катэгорыі як «неблагонадёжность» — гэта старая добрая царская традыцыя. Калі хто-небудзь калі-небудзь «захварэў» на сваім цяжкім шляху гэтай заразнай «хваробай», на палітычнай і грамадзкай рэпутацыі таго застанецца невылячальны рубец, які можа каштаваць жыцьця сваёй ахвяры ў выпадку якой-небудзь міжнароднай калатухі. У нас-жа ўсё яшчэ стаяць перад вачыма жахлівыя этапы насьпех паарыштоўваных «неблагонадёжных», трупамі якіх у паніцы 1941 году бальшавікі паўсьцілалі адхоны беларускіх дарог, што вялі на ўсход. «Маральна тое, — прыпамінаем, — што дапамагае зьнішчэньню...», хоць сабе і ўяўнага ворага.

Для бясьпекі асабістага жыцьця ў Саветах лепш быць жабраком, чымся «ненадзейным». Аб гэтым сьветчыць вельмі нядаўная гісторыя. Законы, якімі кіруюцца камуністычныя сатрапы ў сваіх учынках, не зьмяніліся. Таму ня можа зьмяніцца й лёс тых, хто пападае ў зубчатыя калёсы бесчалавечнае бальшавіцкае махіны. Найлепшае прыпамненьне аб гэтым — дзейнасьць «камітэту за возвращэніе на родзіну».

**А. Будзіч**

# Яшчэ адзін анэкдот пра Пушкіна

**АБО: АЛЯКСАНДАР СЯРГЕЕВІЧ — БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНІК**

Вялікі расейскі паэта Аляксандар Пушкін адзначаўся войстрым розумам і тонкай дасьціпнасьцяй. Таму ня дзіва, што з пакаленьня ў пакаленьне пра яго шмат чаго цікавага засказываць. Часам міжвольна ствараецца ўражаньне, што колькасьць пераказваных эпізодзікаў з пушкінскага жыцьця ня толькі не замірае, але што раз то павялічваецца. Уражаньне зусім не памылковае. Бо вось нядаўна бальшавіцкія спэцы ад анэкдотаў увекавечылі яшчэ аднэй забаўнай гісторыйкай памяць вялікага паэты. А сталася гэта вось як.

Як вам ведама, беларускую савецкую гістарыяграфію камуністычная прапаганда цьвёрда прыкавала да «генэральнае лініі», установленае ў Саветах і для гісторыкаў. Дзеля гэтага, каб падмацаваць згары пастаўленыя цьверджаньні, савецкая гістарычная навука мабілізуе для сваіх паслугаў усё, пачынаючы ад карэннага перакрыўліваньня фактаў аж да высмактваньня з пальца самых розных нябыліцаў.

Прыкладам, страту беларускім народам свае дзяржаўнае незалежнасьці ў канцы 18 стагодзьдзя і ўсе зьвязаныя з гэтым, нягоды ў складзе расейскай імпэрыі, савецкія гісторыкі стараюцца залагодзіць байкамі аб спачуваньнях і дружбе, якую выказвалі Беларусі выдатныя дзеячы тагачаснае расейскае культуры. У ход пускаюцца фантазія й выдумкі, якія ставяць у хваўшывае сьвятло ня толькі гісторыю беларускага народу, але й гісторыю народу расейскага. Восьжа апошнім часам у акцыю апраўдваньня расейскага імпэрыялізму савецкая прапаганда ўцягнула й Пушкіна, які ў сваёй творчасьці выглядае ня меншым імпэрыялістым за самую Кацярыну. Гэта аднак ня перашкодзіла бальшавіком зрабіць з расейскага паэты глыбокага знаўцу і адданага прыхільніка «працоўных мас Беларусі».

☆

Сёлета ў 6-ым нумары савецкага часапісу «Беларусь» быў зьмешчаны прапагандовы фабрыкат нейкага Галаванава пад загалоўкам «Пушкін аб беларускім народзе». Галаванаў на штучным фоне «жахлівага зьдзеку» польскіх паноў над беларускім народам выводзіць постаць расейскага паэты. Ён так заяўляе: **«Пушкін добра быў знаёмы з жыцьцём беларускага народу»** і, нібы схамянуўшыся, тут-жа падмацоўвае сваё цьверджаньне: **«Маёнтак бацькі паэты быў разьмешчаны ў Пскоўскай губэрні, па суседзтву зь Беларусяй».** І таму фантазёр Галаванаў дазваляе сабе на такі кардынальны выснаў: **«Аляксандар Сяргеевіч Пушкін глыбока спачуваў і горача адстойваў правы беларускага народу на свабоду і нацыянальную незалежнасьць».** Вось якім быў Аляксандар Сяргеевіч — змагаром за нацыянальную незалежнасьць беларускага народу!

Пусьціўшы такую прапагандовую качку, Галаванаў яшчэ ня зусім чуўся пэўным адносна жаданага эфэкту. Дзеля гэтага на пацьверджаньне праўдзівасьці сваіх слоў, як водзіцца ў добрым сьвеце гісторыкаў, ён цытуе і самога Пушкіна: «Кацярына зьнішчыла званьне рабства, — падае Галаванаў словы паэты, — а роздарыла каля мільёна дзяржаўных сялян і заняволіла вольную Маларосію і польскія правінцыі».

Пра якія-ж гэта «заняволеныя польскія правінцыі» гаварыў Пушкін? Ня трэба быць вялікім знаўцам гісторыі, каб сьцьвердзіць, што для Пушкіна «польскімі правінцыямі» было ня што іншае, як тэрыторыя Беларусі, якая ў выніку трохразовага захопу была ўключана Кацярынай II-й у склад расейскае імпэрыі. Дык як-жа, папытаемся ў Галаванава і ў кажнага савецкага прапагандыстага, мог змагацца Пушкін за нацыянальную незалежнасьць беларускага народу, калі ў ягоным паняцьці Беларусь была ўсяго толькі польскай правінцыяй?

Значыць, ня так ужо й проста падганяць пад сучасныя асыміляцыйныя патрэбы патляды паэты, хай сабе й прагрэсыўнага, які жыў і думаў 150 год таму.

Пушкін ня хоча ўлазіць у прапагандовыя рамкі камуністчных махлёраў. Ад бальшавікоў шмат выпала на нашую долю. Аднак якія бальшавікі ня «добрыя», але рабіць з Пушкіна беларускага незалежніка — гэта ўжо крыху зашмат. Галаванаву-ж варта быбо-б памятаць, што за падобныя спробы шмат хто апынуўся пад палярным кругам... Ад бальшавікоў шмат выпала на нашую долю.

**Янка З.**

## ЗЬМЕНА АДРАСУ

### РЭДАКЦЫІ Й АДМІНІСТРАЦЫІ

**Усю паштовую карэспандэнцыю для Рэдакцыі й Адміністрацыі, а так-жа для Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў далейшым просім кіраваць выключна на наступны адрас:**

**Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland") (13 b) München 19, Schliessfach 69**

# Удушлівая атмасфэра

На беларускім і ўсесаюзным пісьменьніцкіх зьездах шмат валкавалася праблемаў адносна далейшага росту і папаўненьня новымі маладымі кадрамі Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі. Важнасьць гэтых праблем зусім зразумелая, бо толькі прыход моладзі ў літаратуру можа забясьпечыць жыцьцяздольнасьць арганізацыі. Бальшавікомжа патрэбна ня толькі гэта — яны вымагаюць ад пісьменьніцкіх арганізацыяў **нябывалага** росту. Аднак кантролю над гэтым ростам партыя ня можа апанаваць. У выніку атрымоўваецца заняпад і выміраньне.

Камсамольская «Чырвоная Зьмена» ў сваёй перадавіцы з 2. 7. 55 клапатліва заклікае «Клапаціцца аб літаратурнай моладзі». Газэта адзначае, што, ня гледзячы на «пэўныя зрухі ў рабоце з маладымі пісьменьнікамі», «ўсё-ж рашучага зруху ў рабоце зь літаратурнай моладзяй з часу, што прайшоў пасьля рэспубліканскага (верасень 1954 г.) і ўсесаюзнага (сьнежань 1954 г.) зьездаў пісьменьнікаў, у рэспубліканскай пісьменьніцкай арганізацыі так і не адбылося».

Што-ж здарылася? Чаму пустуюць аблогі сацыялістычнага рэалізму? Газэта на гэта адказвае: «Пісьменьнікі старэйшых пакаленьняў, за рэдкімі выключэньнямі, ня сталі яшчэ для моладзі чулымі і добразычлівымі таварышамі, строгімі і патрабавальнымі настаўнікамі». «Суровай патрабавальнасьці» і «прынцыповасьці», аказваецца, не стае і ў управе пісьменьніцкага саюзу, якая «выдае часам сяброўскія білеты Саюзу па вельмі малаважкіх творчых заяўках — дзесятку газэтных рэцэнзіяў або трох-чатырох далёка не першаклясных апавяданьнях».

Ёсьць яшчэ й іншыя беды ў беларускай савецкай літаратуры. Вось адна зь іх: «У Саюзе пісьменьнікаў БССР і яго габінэце маладога аўтара, у Дзяржаўным выдавецтве рэспублікі і ў рэдакцыях некаторых літаратурных часапісаў не перавяліся факты барскіх, абыякавых адносін да моладзі».

Справа далейшага «буйнага росту» савецкае літаратуры выглядае асабліва мізэрна на правінцыі. Праз колькі месяцаў у Менску адбудзецца рэспубліканская нарада маладых пісьменьнікаў. Ужо цяпер, у сувязі з гэтым, пачынаецца кампанія, «каб у час правядзеньня нарады Саюз пісьменьнікаў БССР не паўтарыў памылак мінулых такіх нарад». Гэтыя калішнія памылкі заключаліся ў тым, што «абмеркаваньне твораў маладых аўтараў насіла іншы раз фармальны характар, бо больш-менш знаёмы зь іхнымі творамі бываў звычайна хто-небудзь адзін із старэйшых літаратараў, а іншыя ўдзельнікі нарады фактычна выказвалі свае думкі па адным праслуханым апавяданьні або трох-чатырох праслуханых вершах».

Паводля «Чырвонае Зьмены» будучая нарада маладых пісьменьнікаў павінна будзе «ўскалыхнуць літаратурнае жыцьцё ў вобласьцях рэспублікі, на буйнейшых прадпрыемствах і ў навучальных установах». «Калыхаць»-жа літаратурным паганятым ёсьць што, бо «апошні час рад літаратурных аб'еднаньняў спыніў па сутнасьці сваю работу».

Заняпад літаратурнае дзейнасьці належыць да агульнага і характэрнага зьявішча ў савецкай Беларусі. Гэтак, тая-ж «Чырвоная Зьмена» з трывогай адзначае, прыкладам, што «Брэсцкае літаратурнае аб'еднаньне, якое яшчэ некалькі год назад было вядомае як адно з мацнейшых у рэспубліцы, зараз зусім заняпала і згарнула сваю работу. Тое-ж можна сказаць пра Магілёўскае і Віцебскае аб'еднаньні, — б'е трывогу камсамольская «Чырвоная Зьмена».

Як на закончаную партыйнасьцяй савецкую творчую атмасфэру — дзіва ў гэтым няма ніякага.

**С. Ясень**

# У паняволенай Беларусі

### ЧАРГОВЫ ЭТАП КАЛГАСНАЕ СЫСТЕМЫ

У перадавіцы «Советской Белоруссіі» з 12. 7. 55 гаворыцца:

«У некаторых калгасах Беларусі ня толькі запушчана гаспадарка, але й сярод часткі калгасьнікаў не адчуваецца належнае трывогі за ейны стан. Сям-там у выніку слабога кіраваньня справай склалася так, што паасобныя калгасьнікі згубілі надзею ў магчымасьць хутка ўзьняць грамадзкую гаспадарку».

Нарэшце-ткі, хоць невялічкае, але затое шчырае прызнаньне дыктатуры адносна «пераможнага калгаснага ладу»...

### ПУСТАЗЕЛЬЛЕ НА КАЛГАСНЫХ ПАЛЁХ

«Чырвоная Зьмена» з 30. 6. 55 падала: «У шмат якіх калгасах Нараўлянскага раёну бесклапотна адносяцца да арганізацыі догляду пасеваў, у выніку чаго ствараецца **пагроза страты ўраджаю.** Напрыклад, у калгасе імя Карла Маркса пасеяна 67 гактараў кукурузы. Аднак пасьля сяўбы кукурузы не прабаранавалі і цяпер **усходы пачало глушыць пустазельле...** З 36 сяброў кукурузаводных звеньняў на прапалку выходзіць толькі 15—17 чалавек. Рэшта выкарыстоўваецца на іншых работах або зусім не працуе ў калгасе.

«Акрамя таго, на пасевы кукурузы напалі драцяныя чарвякі і мядзьведка. Але тут ня могуць весьці барацьбу зь імі, бо няма гэксахларану...

«Ня лепш стаяць справы з доглядам пасеваў і ў калгасе імя Молатава. **Тут таксама пасевы кукурузы зарастаюць пустазельлем.** У запушчаным стане знаходзіцца ў бульба. З-за сьвірэпкі нельга ўбачыць квадратаў...

«Гэтак-жа стаяць справы з доглядам пасеваў бульбы, кукурузы, ільну і збожжавых культур у сельгасарцелях «Запаветы Леніна», «Ленінскі шлях», імя Фрунзэ, «Перамога», імя Шэўчэнкі і інш.»

### З ХУТАРАЎ — У КАЛГАСНЫ ЦЭНТР

Як паведамляе «Зьвязда» з 30. 6. 55 на Глыбоччыне адбываецца перасяленьне з хутараў у калхасны цэнтр.

✵

### КРЫХУ ДАДЗЕНЫХ АБ ШКОЛЬНІЦТВЕ Ў БССР

«Зьвязда» з 28. 7. 55 падае ў сваёй перадавіцы:

«Падрыхтоўка школ да новага навучальнага году вядзецца вельмі марудна... Яшчэ шмат якія школы, асабліва пачатковыя, знаходзяцца ў наёмных памешканьнях... Плян уводу ў строй новых школьных будынкаў з году ў год ня выконваецца... Плян адкрыцьця інтэрнатаў у рэспубліцы штогод ня выконваецца...

«У сельскае мясцовасьці вучням старэйшых клясаў сямігадовых і сярэдніх школ **часта прыходзіцца хадзіць на заняткі за 5—10 кілямэтраў.** У такіх умовах шмат якія школьнікі часта прапускаюць заняткі, асабліва ў васеньнюю непагадзь і ўзімку, а то й зусім пакідаюць школу.».

### КУРЫНЫ РЭКОРД

«Зьвязда» з 28. 6. 55 у артыкуле п. заг. «За сьпіной перадавога калгасу», між іншага, падала: «У сельгасарцелі імя Кірава (Кіраўскі раён Магілеўскае вобласьці) у мінулым годзе прыпадала на кажную нясушку, сорам сказаць, 2,7 яйка. На атрыманьне аднаго яйка тут затрачана столькі працы і сяродкаў, колькі на вырошчваньне аднаго пуда жыта».

Запраўды, трэба быць калгаснай курыцай, каб дабіцца такога рэкорду...

### САВЕЦКІЯ АБВЕСТКІ

У газэце «Зьвязда» ў ліпені раптам зьвілася такая обвестка: «Да ведама насельніцтва гораду Менску. У горкаапгандлю **ёсьць у продажы сельскагаспадарчыя прадукты».**

У «Зьвязьдзе» з 30. 6. 55 была зьмешчана вялізарная ілюстраваная обвестка-перасьцярога: на обвестцы нарысаваны цягнік, раздушаная ім аўтамашына і напісана: «Вадзіцель! Пераяжджай чыгуначныя шляхі **толькі на пераездах...»**

—◇—

У «Зьвязьдзе» з 29. 6. 55 была зьмешчана такая абвестка Беларускае рэспубліканскае канторы «Галоўуторсыравіна»:

«Грамадзяне! нарыхтоўчыя канторы „Галоўуторсыравіна" купляюць у насельніцтва ФЛЯКОНЫ спад духоў і адэкалёну (тут-жа падаюцца цэны за флякон — 1 руб. 50 кап., 1 руб. і 30 кап. — ды падаюцца дакладныя інструкцыі, як фляконы павінны выглядаць: „незабруджаныя, непашкоджаныя, з коркамі... **шкляныя пробкі павінны быць шпагатам або ніткамі прывязаны да флякону"** і г. д.)». Абвестка канчаецца заклікам: «Грамадзяне! Зьбірайце, захоўвайі прадавайце... фляконы спад адэкалёну й духоў».

Стовам: «Грамадзяне! Хутчэй душэцеся!...»

### У БАБРУЙСКУ НЯМА ГАЗЫ

(Ліст у рэд. «Зьвязды» з 30. 6. 55)

У Бабруйску... па сяньняшні дзень не ўпарадкаваны гандаль газай.

**Адзіны на ўвесь горад магазын** для продажу нафтапрадуктаў, які разьмяшчаўся на першым паверсе жылога дому, нядаўна на пастанову гарадзкіх арганізацыяў закрылі. Іншага-ж памешканьня горвыканком не падабраў. У сувязі з гэтым адчуваюцца вялікія перабоі з забесьпячэньнем насельніцтва газай.

Праўда, міжрайгандаль зарганізаваў развозны гандаль газай. Але складзены графік па продажу нафтапрадуктаў парушаецца. **Каля фурманкі з газай заўсёды вялікая чарга.**

І. МІНДЛІН
супрацоўнік бабруйскай гарадзкой газэты «Камуніст».

Для паўніні вобразу падаем тут некаторыя дадзеныя адносна Бабруйску:

Ад 20. 9. 44 да ўзбуйненьня беларускіх вобласьцяў у 1954 г. Бабруйск быў абласным цэнтрам. Ён-жа — параходны порт на Бярэзіне й зялезнадарожны вузел. Места зьвязанае зь Менскам і Магілёвам шасэйнымі дарогамі. **У 1939 г.** тут налічвалася 84 тысячы жыхарства. Паводля савецкае энцыкляпэдыі тут ужо ў 1950 г. у школах было 14 тысяч вучняў. Тут-жа ёсьць настаўніцкі інстытут, 2 тэхнікумы, бібліятэкі, тэатры... Словам, усё акрамя газы...

### ДЗІЎНЫ ВЫПАДАК НА ВІЦЕБСКАЙ СТАНЦЫІ

Аднаго дня ў ліпені на віцебскай станцыі хтосьці забыўся сваю жаночую сумку. Дыжурная ў пачакальні Яўгеньня Манулька заўважыла гэта, забрала сумку і аддала яе дыжурнаму станцыі. У сумцы аказаліся пашпарт, 1.300 рублёў, залатыя гадзіньнік і пярсьцёнак і іншыя каштоўныя рэчы. Гэтая малая гісторыйка кончылася тым, што собсьнік сумкі быў знойдзены і яму была зьвярнутая ягоная згубленая рэч.

Цікавае ў гэтым тое, што аб гэтай асаблівай праяве сумленнасьці начальства станцыі палічыла патрэбным паведаміць цэлае беларускае грамадзтва. І вось у «Зьвязьдзе» з 15. 7. 55 паяўляецца зацемка пад заг. «ВЫСАКАРОДНЫ ЎЧЫНАК». У зацемцы расказваюцца ўсе падрабязнасьці гісторыі з сумкай і з Манулькай, падкрэсьліваецца сумленнасьць дыжурнае віцебскае пачакальні і зазначаецца, што начальнікам вагзалу ёй была абвешчана падзяка.

Чым не арыгінальная мерка маралі?

### ХРАНІЧНАЯ АПАТЫЯ ДА ГАЗЭТ

Закончваючы кампанію падпіскі на газэты й часапісы — ці інакш кажучы, «асваеньне тыражу» — «Саюздрук» у БССР апынуўся ў досыць няпрыемным становішчы. Спробы «асвоіць» — разапхнуць тыраж дзяржаўнае макулятуры наткнуліся на хранічную апатыю беларускага насельніцтва да савецкага друкаванага слова. Асабліва гэта выявілася сярод моладзі, якой найбольш прысьвячае свае бачыны штодзённая газэта «Чырвоная Зьмена», месячны часапіс «Маладосьць» і дзіцячы месячнік «Бярозка».

«Чырвоная Зьмена» з 29 чэрвеня жырным шрыфтам падае нам аўтарытэтныя дадзеныя на тэму падпіскі на савецкія газэты й часапісы:

«Асабліва слаба асвойваюцца тыражы газэты «Чырвоная Зьмена», — піша сам аб сабе і аб сваіх сваякох камсамольскі ворган, — часапісаў „Маладосьць" і „Бярозка". Вельмі дрэнна займаюцца падпіскай на газэты й часапісы Берасьцейскі, Маладэчанскі, Гомельскі й Менскі абкомы камсамолу (а ўсяго іх сем на Беларусі — Р. Л.). У Бярозе ў чэрвені газэту «Чырвоная Зьмена» выпісаў толькі адзін камсамолец, часапіс „Маладосьць" — адзін работнік канторы сувязі і часапіс „Молодой коммуніст" адзін работнік райкому ЛКСМБ. І гэта пры наяўнасьці шмат соцень камсамольцаў, моладзі, якія пражываюць тут!

«У Пружанскім раёне, адным з буйнейшых на Берасьцейшчыне, — тры сярэднія школы, тэхнікум, пэдвучылішча, а значыцца, і шмат моладзі. Аднак на чэрвень тут выпісана ўсяго сем эгзэмпляраў „Чырвонай Зьмены"...

«Неабходна зазначыць, што дрэннае распаўсюджваньне газэт і часапісаў у Берасьцейскай і Маладэчанскай вобласьцях сталася зьявай амаль хранічнай. **Зь месяца ў месяц тут ня выкончваюцца** пляны асваеньня тыражоў...»

Як бачым, савецкія газэты навет і сялёдкі ўкручваць не надаюцца дый сялёдак там далёка не зашмат...

**Р. Л.**

### 840 ТОН ДАЖДЖАВОЕ ВАДЫ НА ГАКТАР

Газэта «Советская Белоруссія» з 12. 7. 1955 падала наступную вестку аб надзвычайнай буры ў Менску.

Уначы з 9 на 10 ліпеня над Менскам узьнялася страшэнная бура зь ліўнем, так што вада, вырваўшыся зь Нямігі, лынула ў вокны кватэраў па Інтэрнацыянальнай вуліцы. Бура трывала больш за тры гадзіны.

Акрамя гэтага вялікія дажды прайшлі ў Менскай, Маладэчанскай і Горадзенскай вобласьцях.

У раёне Балотнай станцыі ля Менску прыпала па 840 тон дажджавое вады на адзін гактар плошчы. Такая колькасьць асадкаў выпадмае тут на працягу цэлага ліпэня месяца.

### ДЗЕ ПЕРАПЛЕСЬЦІ КНІГУ?

Нейкі Альбэрсон, загадчык Тураўскай раённай бібліятэкі, напісаў быў у рэдакцыі «Літаратуры й Мастацтва» (гл. нумар з 9.7.55) ліст, у якім жаліцца на дрэннае тэхнічнае афармленьне беларускіх савецкіх часапісаў і кніг ды прызнаецца, між іншага: «Пераплесьці кнігі ў раёнах і сельскіх бібліятэках няма магчымасьці, бо ў раённых друкарнях няма пераплётнага цэху. Калі-ж рабіць гэта прыватным парадкам, абыйдецца ў некалькі разоў даражэй за цану самога часапісу (чым не ацэнка савецкім часапісам!). Гэткае-ж становішча ў раёне наогул зь пераплётам кніг, якія папсаваліся».

Каб выйсьці з гэтага палажэньня, дапішчык «Літаратуры й Мастацтва» лічыць, што «необходна выпускаць часапісы ў цьвёрдых пераплётах».

# Крэмлёўская фінансавая палітыка й золата

(Працяг з папярэдняга нумару)

Яшчэ з пачатку НЭП-у Саветы прыдавалі найбольш увагі здабываньню золата з залатаносных пародаў. Яшчэ тады частка капальняў золата ў Сібіры была аддадзена на канцэсію пераважна Ангельцам, і, калі канцэсіянэры наладзілі новае мадэрнае абсталяваньне, дык канцэсіі былі адмоўлены Крэмлем яшчэ да тэрміну, назначанага ў умове. Асаблівага ўздыму здабыцьця золата ня было аж да пачатку 30-х год. У 1929 г. было здабыта золата толькі на 15 мільёнаў даляраў паводля савецкіх неправераных дадзеных[7]). У пачатку трыццатых гадоў, калі Крэмль пераканаўся, што запасы будаўлянага лесу ў паўночнай частцы эўрапэйскае Расеі, які рыхтаваўся з 1929 г. працаю да 5 мільёнаў кацэтнікаў — былых кулакоў, што секлі лес пераважна на экспарт, настолькі зьменшыліся, што пагражала відавочная нябесьпека катастрафальнае нястачы будаўлянага лесу на экспарт і для собскіх патрэбаў, пачаўся пэрыяд найінтэнсыўнейшага разьвіцьця залатабудавальнае прамысловасьці на Далёкім Усходзе Сібіру. Гэта не таму, што ў Сібіры былі знойдзены асабліва багатыя новыя залатаносныя мясьціны. Справа ў тым, што пры цараце здабыцьцё золата праводзілася вельмі прымітыўна. Тады сярод эканамістаў быў такі погляд, што ў Сібіры «ня так золата здабываюць, як яго закопваюць». Вось-жа, у пачатку 30-х гадоў Крэмль працай мільёнаў кацэтнікаў пачаў перамываньне на мадэрных машынах залатаноснае пароды, ужо раз перамытые ў прымітыўны спосаб. Танная праца кацэтнікаў рабіла гэтую апэрацыю рэнтабельнай. Гэтак мільёны кацэтнікаў павысілі прадукцыю золата. Наступная табліца дае такі малюнак росту здабыцьця золата ў СССР у параўнаньні з сусьветнай здабычай і здабычай ЗША. Саветы ніколі не падаюць лікаў здабычаў золата. Дадзеныя прыведзеныя ў табліцы — гэта вынік прыблізных аблічэньняў амэрыканскіх дасьледнікаў гэтае праблемы.

**Вага золата аблічана ў мільёнах даляраў.**

| Год | Здабыта у свеце | ЗША | СССР | Заувагі |
|---|---|---|---|---|
| 1930 | 401,0 | 47,1 | 31,0 | Ацэнка унцыі золата на даляр |
| 1931 | 426,4 | 49,5 | 34,0 | праведзена з разьліку: |
| 1932 | 458,1 | 50,1 | 40,0 | I унц, - 20,67 даляра. |
| 1933 | 469,3 | 52.8 | 56,0 | |
| 1933 | 794,5 | 89.5 | 95,0 | |
| 1934 | 823,0 | 108,2 | 135,0 | Ацэнка унцыі золата на доляр |
| 1935 | 882,5 | 126,3 | 138,0 | праведзена з разьліку: |
| 1936 | 971,5 | 152,5 | 187,0 | унц. - 35,0 даляра. [8]) |
| 1937 | 1041,6 | 168,2 | 185,0 | |
| 1938 | 1196,4 | 178,1 | 180,0 | |

Няма сумлеву, што Саветы ў гэтыя гады пабольшылі здабычу золата. У гэты-ж час трэба зацеміць, што пададзеныя лікі здабыцьця золата Саветамі па падліках знаўцаў у Амэрыцы зьяўляюцца перабольшанымі пад уплывам савецкае прапаганды. Гэтак, у 1933 г. Сталін сказаў амэрыканскаму карэспандэнту наступнае: «У нас шмат залатаносных раёнаў і яны борзда разьвіваюцца. Асабліва за два апошнія гады мы палепшылі мэтады нашае разьведвальнае працы і знайшлі вялікія запасы»[9]). Гэтыя палепшаныя мэтады, як мы бачылі, у гадох 31-33 палягалі на застасаваньні мэтадаў «Торгсіну» ды «залатухі». Новыя залатаносныя раёны — гэта былі пераважна магазыны «Торгсіну» і турмы НКВД. Запраўды, гэтых «новых раёнаў» было вельмі шмат і яны на самай справе далі Крэмлю нямала золата.

Молатаў таксама выкарыстаў для прапаганды дадзеныя дзяржаўнага банку паводля якіх пададзена запас золата ў вышыні 970,8 мільёнаў руб. згодна з курсам 1 руб. = 51,46 цэнтаў, і на зьезьдзе прадставіў справу так, што быццам-бы з усіх цяжкасьцяў пэрыяду 29-34 гадоў Саветы выйшлі навет так добра, што больш як на мільярд маюць вольных ад тэрміновых забавязаньняў золата, плятыны вэксляў і чужаземнае валюты[10]). А такія эканамістыя, як Расеец-эмігрант праф. С. Пракаповіч пасьпяшаліся паверыць і Молатаву, і Сталіну і сваім аўтарытэтам спрыяюць савецкай прапагандзе, цьвердзячы, што ў Саветаў надзвычайна вялікія запасы золата. Тым-жа часам гэта было золата, сабранае «Торгсінам», мэтадам «залатухі» ды здабытае кацэтнікамі ў Сібіры перамываньнем ужо раз прамытае залатое пароды. А ў дабавак да гэтага сабранае ў такі брутальны спосаб золата для сплаты тэрміновых забавязаньняў імпарту 1929-31 гг.[11]).

Для аналізу праўдзівасьці аблічаных амэрыканскімі знаўцамі колькасьці здабычы Саветамі золата ў пэрыяд 34-38 гадоў варта зрабіць параўнаньне экспарту, імпарту і здабычы золата ў СССР у гэтыя гады. (Экспарт і імпарт усіх родаў тавараў і золата пададзены ў мільёнах рублёў паводля курсу рубля на 1/III 1950 г.)

| Год | Эксп. тав. | Імп. тав. | Прадукц зол. у СССР |
|---|---|---|---|
| 1934 | 1458,0 | 810,0 | 440,0 |
| 1935 | 1281,0 | 841.0 | 632,0 |
| 1936 | 1082,0 | 1077,0 | 748,0 |
| 1937 | 1305,0 | 1012,0 | 740,0 |
| 1938 | 1005,0 | 1074,0 | 720,0 |
| Разам | 6131,0 | 4814,0 | 3280,0 [12] |

З табліцы атрымоўваецца, што, калі пададзеная здабыча золата не зьяўлаецца перабольшанай, дык у сярэднім у гэтыя гады здабыча золата ў СССР складала 68,4% усяго імпарту. А калі гэтага не заўважалася, дык гэта можа значыць, што амэрыканскія знаўцы СССР, аблічваючы колькасьць прадукцыі золата ў СССР за гэтыя гады, памыліліся й значна перабольшылі здабытак золата ў СССР. Крэмль заўсёды прагнуў пабольшыць свой імпарт, а ў гэтыя перадваенныя гады асабліва. Перашкодаю заўсёды была нястача экспартных тавараў. Крэмль усьцяж разглядаў золата як найвыгаднейшы экспартны тавар. Таму выглядае непраўдападобным, каб СССР, маючы такую вялікую прадукцыю золата, не пабольшыў імпарту, асабліва стратэгічна важных матар'ялаў. Вось-жа з усяго гэтага выплывае выснаў, згодна зь якім трэба ўважаць, што на 40-ы год Крэмль бадай поўнасьцяй адабраў у насельніцтва золата, павысіў здабычу золата, аднак не да колькасьці, якая-б давала яму магчымасьць заняць другое месца па здабычы золата ў сьвеце.

Трэба падкрэсьліць, што для Саветаў пэрыяд аж да канца Другое Усясьветнае вайны быў найцяжэйшым у адносінах да абставін накапленьня золата, як тавару для аплаты за імпарт.

Тэрытарыяльныя здабыткі Крэмля пасьля вайны далі яму магчымасьць выпампоўваць золата з сатэлітных дзяржаваў і ў насельніцтва сатэлітаў звычайна праз камуністычныя ўрады сатэлітаў. Як выглядае гэтая справа, можна бачыць із зьместу закону сатэлітнае Польшчы, у якім знаходзім прадбачанае ў 1950 годзе «адабраньне ў капіталістычных элемэнтаў запасаў золата, плятыны і чужаземнае валюты». Таксама, «былі ўстаноўлены суровыя кары за спэкуляцыю золатам і чужаземнаю валютай».[13]) Калі ўзяць пад увагу, як шырока камуністыя разумеюць паняцьце «капіталі-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Крэмлёўская фінансавая палітыка...

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

стычных элемэнтаў», дык бяз сумлеву пад гэтае паняцьце падпадуць і работнікі, і сяляне, калі яны маюць золата.

Урэшце абвешчаньне Саветамі законам з 1. 3. 50 парытэту савецкага рубля ў вышыні 1 руб. = 0,222168 грама чыстага золата, акрамя прапагандовага й прэстыжовага значэньня, дае Крэмлю магчымасьць атрымоўваць ад сатэлітных дзяржаваў згодна высокага курсу рубля сплаты золатам за сталую й значную падвышку савецкага экспарту ў сатэлітныя краі, а ў тым ліку і ў Кітай.

Так выглядае ў кароткім накрэсьленьні змаганьне камуністычнае Масквы за накапленьне для Крэмлю золата ад пачатку камуністычнага панаваньня аж да сяньняшніх дзён. Увесь цяжар гэтае даўгатрывалае акцыі, як бачым, лёг на плечы савецкіх грамадзян і асабліва Ўкраінцаў і Беларусаў, што гінулі ў канцэтах, здабываючы золата ў Сібіры, у турмах НКВД, захварэўшы на «залатуху» і выміраючы з голаду, тады, калі нястачу золата на экспарт Саветы пакрывалі вывазам прадуктаў.

Тут паўстае пытаньне: Дзе-ж тое золата, якое ў такі нялюдзкі спосаб Саветы адабралі ў насельніцтва ды здабылі ў Сібіры?

Гэтая частка праблемы разьвязваецца значна прасьцей за папярэднюю, у якой мы падавалі толькі галоўныя прыхваткі мэтаду накопліваньня золата Саветамі. У гэтай дзялянцы Саветы самі падаюць матар'ял дастатковае вагі. Да гэткіх савецкіх матар'ялаў варта залічыць абарот вонкавага гандлю. Паводля дадзеных савецкага праф. А. Сьмірнова мы можам падаць наступную табліцу экспарту й імпарту за пэрыяд ад 1918 г. да 1938 у мільёнах рублёў па курсе рубля

| Гады | экспарт | Імпарт | Вынік |
|---|---|---|---|
| 1918-20 | 33,3 | 477,8 | — 444,5 |
| 1921-25 | 4409,0 | 5960,0 | —1551,0 |
| 1926-32 | 19587,0 | 21428,0 | —1841,0 |
| 1933-38 | 7856,0 | 6028,0 | +1828,0 |
| Усяго | 31885,3 | 33893,8 | —2008,5 [14] |

Саветы не падаюць лікаў экспарту й імпарту за час вайны з 1939 да 1945 году ўключна. Імпарт паводля амэрыканскага «лэнд-лізу» Саветы замоўчваюць. Гэты імпарт, як бачым, складаў 11 650,0 мільёнаў даляраў, або паводля курсу рубля на 1. 3. 1950 г. 46 600,0 мільёнаў рублёў.

Нарэшце пэрыяд 1946—50 гадоў дае такі вобраз экспарту й імпарту паводля курсу рубля на 1. 3. 1950 г. (у мільёнах рублёў):

| Гады | экспарт | Імпарт | Вынік |
|---|---|---|---|
| 1946-50 | 14944,0 | 17342,0 | —1400,0 [15] |

Пададзены вышэй савецкі лікавы матар'ял пра абароты й вынікі савецкага экспарту й імпарту з 1918 г. да 1950 уключна даводзіць, што Саветы бадай заўсёды мелі няспрыяльны гандлёвы баланс вонкавага гандлю, які, навет паводля савецкіх дадзеных, дасягаў 3 408,5 мільёнаў рублёў (паводля курсу 1 руб. = 0,25 цэнтаў) дэфіцыту. Але фактычна дэфіцыт , які Саветы пакрывалі золатам, быў значна большы, як гэта паказвае савецкі аўтар. Справа ў тым, што ад 30-х год Саветы паказваюць вываз золата як вываз тавараў, бо, бач, СССР — гэта край, які здабывае шмат золата.[16]) Таму ў сумах экспарту Саветы скрываюць значную частку вывазу золата. Гэта было асабліва заўважна ў 1933—38 гадох, калі яны навет мелі перавагу экспарту над імпартам ў вышыні 1 828,0 мільёнаў рублёў у выніку продажу таго золата, якое забралі ў насельніцтва мэтадам «Торгсіну» й «залатухі».

Акрамя гэтага, Саветы ніколі не падаюць плацежнага балянсу паводля разьлікаў з заграніцай, згодна із сплатамі не павязанымі з таваровымі апэрацыямі. Гэта выдаткі золата на камуністычную прапаганду, падтрымку камуністычных рухаў, камуністычнае агентуры і г. д.

Разглядаючы тры вышэй пададзеныя аргумэнты, што даводзяць сталы адплыў золата з СССР за мяжу, трэба падкрэсьліць, што найпаважнейшае значэньне мае той факт, што Саветы самі прызнаюць дэфіцытнасьць свайго гандлёвага балянсу вонкавага гандлю. Гэта дае магчымасьць цьвердзіць, што адплыў золата з СССР замежы **ёсьць такі вялікі і, галоўна, сталы, што Крэмль ня мае магчымасьці рабіць вялікія запасы золата.** Крэмль, як мы бачылі, усімі спосабамі стараецца даводзіць, што быццам-бы ён мае вялікія запасы золата. Навет ня так даўно, калі пасьля бэрлінскага паўстаньня, баючыся далейшых забурэньняў з прычыны голаду, Крэмль пачаў масава вывозіць золата бадай выключна на куплю прадуктаў. Па гэты бок зялезнае заслоны савецкая прапаганда пачала пашыраць інфармацыі, што быццам-бы на Калыме Саветы знайшлі выключна багатыя залежы золата. А калі крыху пазьней Саветы пачалі вывозіць і срэбра, дык стала ясным, што ў крытычны мамэнт Крэмль кідае на экспарт усё, часам апошняе, што лёгка можна прадаць замяжой.

Праведзены такі аналіз паказвае, што запасы золата ў Саветаў ня могуць быць вельмі значнымі, бо ніводная вялікая краіна пры сталым і такім інтэнсыўным адплыве золата замежы ня зможа накопліваць яго ў значнай колькасьці.

Падсумоўваючы можна сканстатаваць, што прапанова галоўнага камісара тады яшчэ савецкага Народнага Банку т. Спундэ, каб золата разглядаць як тавар для сплаты ім замяжой, як мы бачылі, праводзілася Саветамі ў іхнай валютнай палітыцы амаль 37 год. Зразумела, што такі курс ды яшчэ за такі доўгі час мусіў прывесьці да сталага масавага адплыву золата замяжу.

Парада Леніна «берагчы ў РСФСР золата, прадаваць яго даражэй, купляць за яго чым таньней тавар»[17]), якую ён падаў ужо тады, калі перастаў мроіць аб ужываньні золата на спэцыфічнае ўладжаньне для туалетаў, такама не дапамагла Крэмлю назьбіраць вялікія запасы золата.

Калі крамлёўскія камуністыя патрактавалі золата як тавар для продажу замяжу, дык яно не магло зьбірацца ў СССР, які заўсёды такі галодны на імпартныя тавары.

**Міх. Паўлюк**

7) Амэрыканскі Альманах, «World Almanac», 1945, бач.550.

8) Амэрыканскі Альманах, 1945, бач. 550

9) **«Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя»,** т. XVII, бач. 155. Сталін, **Творы, т. XIII,** бач. 277.

10) **«Справаздачны даклад аб працы ўраду 7-му зьезду Саветаў»,** 1935, бач. 23.

11) Савецкія фінансістыя праф. А. Сьмірноў, праф. З. Атлас ды шмат іншых у сваіх фундамантальных працах не спамінаюць канкрэтна пра гэтую вялікую колькасьць золата, бо знаюць ягонае паходжаньне, і куды яно было вывезена на сплату тэрміновых даўтоў, тэрмін якіх якраз прыпадаў на 1936 г.

12) Дадзеныя адносна імпарту ды экспарту тавараў узятыя з кнігі праф. А. Сьмірнова **«Міжнародныя разьлікі й крэдытовыя дносіны ў вонкавым гандлі СССР».** Масква, 1953, бач. 235. Здабыча золата ўзята з папярэдняе табліцы.

13) Праф. З. Атлас, **Узмацненьне грашовае сыстэмы СССР і краін народнае дэмакратыі. Інфляцыя ў краінах капіталізму.** Дзяржвыдав. 1951, бач. 80.

14) Праф. А. Сьмірноў, **Міжнародныя разьлікі і крэдытовыя суадносіны ў вонкавым гандлі СССР.** Масква, 1953, бач. 194, 209, 224, 235.

15) Праф. С. Пракаповіч, **Народная гаспадарка СССР.** Нью Ёрк, 1952, т. II, бач. 235—236.

16) Праф. А. Сьмірноў, **Міжнародныя разьлікі й крэдытовыя адносіны ў вонкавым гандлі СССР.** Масква, 1953, бач. 89.

17) В. Ленін, **Творы,** т. 33, бач. 89—90

## Куток мовы

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

**Але; беспасярэдне, без адвалокі, безадвалочна; веснавы, вяснушчы, гвозд; дагэтуль, даволі, дастатны; забіўца, забіўства, загана, зачыняць, зязюлянё, зычлівы**

«Так, — ледзь стрымліваючы сябе, прамовіў Бронік».

«Так, птушкі — нашы сябры».

**Так, гэтак, гэнак —** прыслоўі спосабу на пытаньні як? якім парадкам? **Гэтак** ужываецца ў дачыненьню да таго, што блізка, **гэнак —** у дачыненьню да таго, што далей, а **так,** калі выразліва не паказуецца як ёсьць або мае быць, але кажацца агульна. Прыклад: Я пішу гэтак, а ён піша гэнак, а трэба пісаць так, як вымагаюць. Апрача таго, **так** кажуць у такіх прыпадках, як: Чаго ты прышоў? **— Я прышоў так** (знач. без патрэбы). Гэтыя прыслоўі і аднакарэнныя зь імі іншыя прыслоўі й займёны шырэй разгледжаныя ў варт. «Некаторыя групы словаў белар. мовы» («Бацькаўшчына», 1952 г., № 35).

Дзеля пацьверджаньня ўжываецца «але». Дык мае быць: Але, — ледзь зьдзержуючы сябе, прамовіў Бронік. Але, птушкі — нашы сябры.

«Бальшавіцкімі шпіёнамі ў сьвеце **беспасярэдна** кіруюць дыпляматы». «Аўтар лісту пераслаў яго беспасярэдна». Дзякуй Богу ўжо няма «непасрэдна», але канцавое -на ў гэтага аўтара засталося. Тым-жа часам разгляданае прыслоўе магло паўстаць толькі ад кароткай хормы прыметніка «беспасярэдні» ў назоўным склоне адз. л., зн. «беспасярэдне» і гэтак мае пісацца, бо **е** ў складох па націску **на пісьме** звычайна не пераходзе **ў я.**

«Нельга было чакаць спраціўленьня, трэба было дзеяць **безадкладна».** Такога слова ў блр. мове сусім няма, але кажацца «без адкладу», «не адкладаючы» тады, калі вызначаны тэрмін спаўненьня чагось не пераносіцца на пасьлей. А калі вызначанага тэрміну ня было, але работа, справа не адвалакаецца, тады кажацца «без адвалокі», «безадвалочна». Праз гэтыя словы гл. «Група словаў» («Бацькаўшчына», 1952 г. № 34/113).

«Зь вясеньнім сонцам зьяўляюцца яны ўзноў» — русыцызм, паблр. — **зь веснавым, зь вяснучым.**

Вось ужо **выдумшчык** тэты Алік!» Спакменьнікі на -шчык, -чык, абзначаючыя дзеючую асобу — асаблівасьць вылучна расійская. Паблр. скажуць тут хіба іншае слова («штукар, вынаходнік»?), а калі ня іншае, дык будзе «выдумнік». Праз спакменьнікі із суфіксамі -шчык, -чык, -нік гл. «Веда»,1952 г., б. 252.

«Гвозьдзь» — русыцызм, паблр. **гвозд.**

«Ніводнаму чалавеку **да сядня** не ўдалося ўзыйсьці на верх гэтае гары». Паблр. — **дагэтуль.**

«Калі-б усіх абанэнтаў было толькі сто, **достаткова** было-б аднаго шуканьніка». «Дастаткова», як і «канчаткова» належаць да савецка-беларускага жаргону. Гэта словы штучна й няўмела зробленыя ад «дастатак» і «канчатак». Тымчасам маем словы прыродныя, народныя — **даволі й канчальна**. Белар. **дастатны** = рас. «достаточный». Праз гэтыя словы гл. «Група словаў» («Бацькаўшчына» 1952 г., № 35/114). Мае быць: Калі-б усіх абанэнтаў было толькі сто, даволі было-б аднаго шуканьніка.

«Забойства, забойца» — полёнізм, пблр. **— забіўства, забіўца.**

Гэтыя-ж слова «забіўства, забіўца, біць, забіць, забіваць» ужываюць замест польскага германізму «морд, мордэрца, мордоваць, замордоваць».

«Я хацеў-бы закрануць **недахопы ў** справах». «Недахоп» — русыцызм, бо этымолёгічны пераробл. рас. «недостаток». Калі чагось не стаець, дык есьць **нястача;** што трэба ганіць, тое ёсьць **загана.** Прыкладам, калі ў еміне не стаець бялку, дык у такой еміне будзе нястача бялку, а гэтая нястача ёсьць заганаю еміны. Мае быць: Я хацеў-бы закрануць заганы ў справах.

Шырэй праз «нястачу», «загану» і пад. гл. Групы словаў[1]). (Б.[2]) № 38/117).

Эміграньты **дзьвярям** не даюць **закрыцца** ў кансуляце». У консульсьцьве хіба дзьверы нічым не закрываліся, але зачыняліся. Дык мае быць: Эміграньты **дзьвяром** не даюць **зачыніцца ў** консульсьцьве.

«Мы ня можам **замыкаць** вачэй на небясьпечнасьць такой рэакцыі». Замыкаць толькі можна штось на **замок,** а без замка дзьверы, вокны, скрыню, вочы, вусны, кнігу, сшытак **зачыняць.**

«Мухалоўка вывядзе **птушанят,** і маленькі, але мацнейшы **зязюлёнак**, выкіне з гнязда сваіх малочных братоў».

«Гэта сьпявае зязюлёнкаў бацька».

Зязюлёнак — гэта сын, хлапец, дзяцюк, каторага бацька мае прозьвішча «Зязюля», а птушанё зязюльчына завецца зязюлянё (як куранё, гусянё). Мае быць: Мухалоўка вывядзе **птушаняты,** і маленькае, але **дужшае** (або: крапчэйшае) зязюлянё, выкіне з гнязда сваіх малочных братоў.

Гэта **пяець зязюляняцін** бацька.

«Дабразычлівы». Такога слова белр. мова ня знае. «Добра» — тут аўтар дадаў пад уплывам расійскім. Паблр. можна **зычыць** дабра й ліха, але быць **зычлівым** можна толькі зычачы камусь дабра. Дык ёсьць толькі **зычлівы.**

**Дзярлівы, дзярун; каса, коска, касуля, касьнік; кулёк; клопат; летась; менаваны, можа; наказ, наступнік; паглядна, пагулянка, палягчыць, палёгка, памагаць, памога, памятаваць, папытаць, -ца, пастанавіць, пэўны.**

«На вяршалінах **самых высокіх** сосен будуюць свае гнёзды птушкі — **драпежнікі:** падорлікі, **ястрабы».** Першае й трэйцяе падчыркненае слова русыцыз-

1) Гэтак далей буду скарачаць назоў артыкулу «Некаторыя групы словаў беларускае мовы», надрукаванага ў «Бацькаўшчыне» 1925 г.

2) Гэтак далей буду скарачаць назоў газэты «Бацькаўшчына».

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

**Г. А. Такаеў**

# Аб Бэрыі, Керэнскім, рэвалюцыі й контррэвалюцыі

(Працяг з папярэдніх нумароў)

### 56. Двуадзіная сутнасьць партыйнае алігархіі

Але мы ўжо адцемілі, што ад імя партыі гаворыць прэзыдыюм ЦК КПСС, які ў вадноькавай меры зьяўляецца алігархіяй дзяржаўнай, урадавай, аб чым сьветчыць ніжэй пададзенае:

**А. Алігархія пры Сталіне**

**Прозьвішча й пасада ў партыі**

Сталін — сябра прэзыдыюму, гэнэральны сакратар
Молатаў — сябра прэзыдыюму
Булганін — таксама
Маленкоў — таксама
Бэрыя — таксама
Мікаян — таксама
Кагановіч — таксама
Сабураў — таксама
Пярвухін — таксама
Варашылаў — таксама
Хрушчоў — таксама
Швэрнік — кандыдат прэзыдыюму

**Прозьвішча й пасада ў урадзе**

Сталін — старшыня савету міністраў
Молатаў — заступнік старшыні
Булганін — таксама
Маленкоў — таксама
Бэрыя — таксама
Мікаян — таксама
Кагановіч — таксама
Сабураў — таксама
Пярвухін — таксама
Варашылаў — таксама
Хрушчоў — сябра прэзыдыюму вярх. сав.
Швэрнік — старшыня прэзыдыюму вярхоўнага савету

**Б. Алігархія цяпер**

**Прозьвішча й пасада ў партыі**

Хрушчоў — сябра прэзыдыюму, першы сакратар
Варашылаў — сябра прэзыдыюму
Булганін — таксама
Молатаў — таксама
Кагановіч — таксама
Мікаян — таксама
Пярвухін — таксама
Сабураў — таксама
Маленкоў — таксама

**Прозьвішча й пасада ў урадзе**

Хрушчоў — сябра прэзыдыюму вярхоўнага савету
Варашылаў — старш. прэзыд. вярх. савету
Булганін — старшыня савету міністраў
Молатаў — заступнік старшыні
Кагановіч — таксама
Мікаян — таксама
Пярвухін — таксама
Сабураў — таксама
Маленкоў — таксама

Прыгледзьцеся да гэтых табліцаў. Праўда, пэрсанальны склад сям-там зьмяніўся, але таксама праўда, што асноўныя суадносіны паміж партыяй і дзяржаўнай алігархіяй не зьмяніліся. Вось-жа гутаркі аб тым, што пасьля сьмерці Сталіна адбыліся «вялікія зьмены» структуры кіраваньня савецкае імпэрыі зьяўляюцца беспадстаўнымі. Адны і тыя-ж самыя асобы былі ў вадзін і той-жа самы час сябрамі ўрадавае й партыйнае алігархіі, — адны і тыя-ж самыя асобы застаюцца такімі. Так было, так ёсьць., інакш ня можа быць, таму, што гэта выцякае з дактрыны камунізму, з прынцыпу аднапартыйнае тыраніі, з т. зв. «дэмакратычнага цэнтралізму», якіх ніхто не адменьваў, у іншым выпадку камунізм перастаў-бы быць камунізмам.

### 57. Двуадзіная сыстэма кіраваньня

Паседжаньне прэзыдыюму адбываецца пад старшынствам Хрушчова, калі абмяркоўваюцца партыйныя пытаньні, і пад старшынствам Булганіна, калі абмяркоўваюцца ўрадавыя пытаньні. У першым выпадку яны завуцца паседжаньнямі прэзыдыюму ЦК КПСС, а ў другім — паседжаньнямі (прэзыдыюму) савета міністраў СССР. Але месца паседжаньняў — тое-ж самае, стол — той-жа самы, асобы — тыя-ж самыя. Пасьля паседжаньняў абодва праводзяць адну і тую-ж самую лінію прэзыдыюму. Заданьне Хрушчова — склікаць сходы, канфэрэнцыі й пленумы **партыі** для davядзеньня пастановаў прэзыдыюму да масаў. Заданьне Булганіна — рабіць належныя адміністрацыйныя захады для рэалізацыі пастановаў прэзыдыюму згодна зь дзейнасьцяй ураду. Як гаворыцца ў СССР, «партыя мабілізуе», а дзяржаўны апарат выконвае. Беспасрэдныж выканаўца зьяўляецца пад чатырохкратным кантролем: паперwае, па лініі партыі; падругое, па лініі адміністрацыі; патрэйцяе, па лініі міністэрства дзяржаўнага кантролю; пачацьвертае, па лініі камітэту дзяржаўнае бясьпекі (Серова).

Ува ўсё гэта ўдумайцеся і будзе ясна, зь якога роду цяжкасьцямі сустрэліся Бэрыя й Мяркулаў, і будуць сустракацца ўсе будучыя змоўцы і падпольнікі.

### 58. Пра калектыўнае кіраўніцтва й культ магутнасьці

Пасьля сьмерці Сталіна, як бачым, усясьветная прэса й ейныя эміграцкія падпявалы зь дзіцячай наіўнасьцяй падхапілі бязглуздую вэрсію пра вынаходзтва Бэрыяй і Маленковам лібэральнага рэжыму. Гэта — небясьпечная памылка, якая мяжуецца з належна прадуманай правакацыяй. Яна радзіла хвальшывыя надзеі і прытупіла пільнасьць публікі, дала крамлёўскай алігархіі выйгрыш часу, дапамагла ёй без перашкод перастуіць праз цяжкасьці.

У запраўднасьці ніякага «лібэралізму» і «калектыўнага кіраўніцтва» Маленкоў, Бэрыя й Молатаў не вынайходзілі. Такое кіраўніцтва існавала ад пачатку Кастрычніцкае рэвалюцыі і звалася **палітбюро,** а ад XIX зьезду — **прэзыдыюмам.**

Такія-ж памылковыя гутаркі адносна скасаваньня культу асобы. Папершае, імя Сталіна зусім ня выгнанае, а лісты «правадыру, настаўніку й бацьку» перасталі публікаваць таму, што ён памёр, яго больш няма. Падругое, у СССР працягваюць існаваць тысячы аб'ектаў «імя Сталіна», працягваюць вынаходзіць «працы Сталіна», працягваюць існаваць інстытут Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна, у гымне традоўжваюць апяваць Леніна й Сталіна, прысуджваць Сталінскія прэміі і г. д., і т. п. Патрэйцяе, культ асобы афіцыяльна быў асуджаны як антымарксыстоўскае зьявішча, зусім не пасьля сьмерці Сталіна, а даўным даўно, прыкладам, у пастанове ЦК ВКП(б) у сувязі з выданьнем Кароткага курсу гісторыі ВКП(б) у 1938 г. Аб гэтым можна пераканацца з самога Кароткага курсу. Перагледзьце, прыкладам, двутомнік **«КПСС у рэзалюцыях»** або творы Леніна й Сталіна, або матар'ялы дыскусіяў зь зіноўяўцамі, — пра культ асобы як пра антымарксыстоўскае зьявішча, гаворыцца цьвёрда, ясна, катэгарычна, адназначна.

Чаму-ж і як магло здарыцца, што байкі пра вынахад «калектыўнага кіраўніцтва» і адкліканьне культу асобы былі падхоплены ня толькі іншымі чужаземцамі «экспэртамі», але й эмігрантамі, навет калішнімі камуністымі, якія вельмі добра знаюць запраўдны стан рэчаў? Выходзіць, што камэнтатары ўзяліся за пашырэньне крамлёўскіх тактычных мітаў, не патурбаваўшыся пазнаёміцца з шматлікімі даўнейшымі і пэўнейшымі дакумэнтамі пра адмаўленьне ад культу асобы.

### 59. Чаго хацела крамлёўская алігархія

У чым-жа тады сутнасьць і значэньне крамлёўскіх мітаў пра калектыўнае кіраўніцтва і пра адмаўленьне ад культу асобы ў 1953 г.? А ў тым, што апісаныя падзеі вымагалі **хуткага** заваяваньня спачуваньня народных мас папярэджваць магчымыя антысавецкія эксцэсы ўнутры й вонках краіны. Крамлёўскім верхаводам трэба было выграць час і з гэтай мэтаю пераканаць масы, што замест аднаасобнае дыктатуры цяпер запануе дэмакратычнае калектыўнае кіраўніцтва, што з рэакцыйным культам асобы скончана раз і назаўсёды, вось-жа няма патрэбы праяўляць незадаваленьне рэжымам.

ЦК КПСС не сумляваўся, што ў сывеце знойдзецца дастатковая колькасьць лёгкаверных дзівакоў. І ён не памыліўся. За яго міты пачалі пашыраць беспрынцыповыя рабы благіх жаданьняў. Але ў Крэмлі нікому і ў галаву ня прыходзіла зракацца традыцыяў, інакш прыйшлося-б ім адрачыся ад саміх сябе. ЦК КПСС быў і застаецца ашуканцам. Больш за Сталіна ніхто не гаварыў супраць зьвядзеньня гісторыі народаў да апісаньня дзейнасьці палкаводцаў і «вялікіх людзей», — больш за Сталіна ніхто не зрабіў у дыямэтральна супрацьлежным кірунку. ЦК ВКП(б) апублікаваў шэраг крыклівых пастановаў супраць культу асобы, — гісторыя-ж ня знае такога абагаўленьня асобы, якое праводзіў ЦК КПСС у вадносінах да свайго гэнэральнага сакратара. Каму ўсё гэта ня было ведама? Вось-жа, як і чаму несавецкія людзі так заўзята распаўсюджвалі крамлёўскія міты?

Праўда, ЦК КПСС разьлічваў і разьлічвае, што між культам асобы й **аўтарытэтам правадыра** існуе розьніца, што апошні патрэбны партыі і будаўніцтву камунізму, паколькі «мы ўсё акружаны варожым капіталістычным сьветам». Але гэта ўжо таўталягічныя драбніцы. Ніколі яшчэ ніводзін цынік не дайшоў да таго, каб прызнаць сябе нягоднікам і хваліцца публічна гэтым званьнем. Прыкладам, Бэрыю прынята лічыць ініцыятарам скасаваньня культу асобы ў 1953 г., а хіба-ж ня факт, што той-жа Бэрыя ў 30-х гадох напісаў кнігу «Да гісторыі бальшавіцкіх арганізацыяў Закаўказьзя», у якіх мудраму правадыру і настаўніку прыпісаў безьліч нязробленых ім вялікіх учынкаў? (Далей будзе)

# Пасьля Жэнэвы

(Працяг з 1 бачыны)

кладам Сталіна, які баючыся канкурэнцыі арміі, выразаў 57 працэнтаў каманднага складу, сталінскія наступнікі зайздросна не дапускаюць да ўлады праўдзівых вайскавікоў. Хоць Жукаў мае за сабой вялізарныя ваенныя перамогі, усёж Хрушчоў высоўвае Конева, які ёсьць пакорным гадунцом партыі. Прыезд Жукава ў Жэнэву нічуць не даказвае ягонага значэньня на крамлёўскім Алімпе. У Жэнэве Жукаў павінен быў выконваць ролю сырэны і сваім русалчыным сьпевам чараваць Айзэнгаўэра. Усё гэта выразна даказвае, што праўдзівыя вайскавікі не карыстаюцца поўным даверам партыйнай алігархіі.

Калі-ж ідзе гутарка аб нізох савецкае арміі, дык адтуль калектыўнае кіраўніцтва яшчэ менш можа спадзявацца адданасьці й ахвярнасьці для партыі. Прыглядаючыся да камуністычнай прапаганды сярод арміі, ня цяжка заўважыць, што партыя ня чуецца пэўнай сярод вайсковых масаў. Бязупынныя, нудныя заклікі гуртавацца навокал партыі, быць ёй верным, натхняцца партыйнымі дырэктывамі, у адданасьці партыі бачыць вузор патрыятызму — пацьвярджаюць нашу гіпатэзу.

Ня можна ставіць пад сумлеў гэройства савецкага жаўнера, аднак да гэройства мусіць натхняць нешта большае чымся служба партыі й дыктатуры. Савецкі жаўнер выйшаў з народу, бязьлітасна эксплятаванага дыктатурай і напэўна не пачуваецца да абавязку аддаваць за гэту антынародную дыктатуру сваё жыцьцё. Савецкі жаўнер добра памятае, як гэта дыктатура ўжо некалькі разоў безсаромна ашукала народы Савецкага Саюзу. Калі-б крамлёўскія дыктатары справакавалі трэцюю сусьветную вайну, яна-б бязумоўна вялася пад знакам вызваленьня народаў Савецкага Саюзу спад камуністычнага прыгнёту і тады больш чымся сумлеўна, ці савецкая армія білася-б ахвярна за партыю, а гэтым самым — і за сваю няволю.

Гэта таксама ўлічвае калектыўнае кіраўніцтва. Дзеля таго, перад поўным дазбраеньнем, якое-б камунізму запэўніла маланкавую перамогу, савецкая алігархія не магла йсьці на далейшыя правакацыі, якія-б маглі выклікаць передчасны канфлікт.

Гэтыя два сымптомы слабасьці Савецкага Саюзу не даюць нам поўнага малюнку крызысу камуністычнай сыстэмы, калі ня возьмем пад увагу эканамічнай галіны Саветаў і сатэліцкіх краінаў.

Савецкая прапаганда ўсьцяж сьпявае сваю старую песьню аб бязупынным узросьце дабрабыту ў камуністычных краінах і нямінучым крызысе ў капіталістычным сьвеце. Гэта ейнае пабожнае пажаданьне. Аднак у рэчаіснасьці мы назіраем зусім адваротнае да гэтых жаданьняў зьявішча. На Захадзе дабрабыт сягае амаль нябывалага ўзроўню, тады, калі камуністычныя краіны ня могуць выблытацца з крызысаў. Аб гэтым сьветчаць штораз то новыя выдумкі Хрушчова і ягоная дактрынэрская кампанія супраць сялянства, ягоныя рэфарматарскія выкрутасы, якія разьбіваюцца аб пасыўны супраціў грамадзтва. Калгасы штораз менш прадукуюць, а савецкі прамысловы работнік, якога змушаецца больш працаваць, мае менш прадуктаў харчаваньня і больш прычынаў да незадаваленьня з улады. Ня трэба быць адмыслова спрытным назіральнікам, каб сьцьвердзіць, што прапарцыянальна да націску адміністрацыі на калгасьнікаў і работнікаў — узрастае іхны пасыўны адпор. Фантастычныя пляны Хрушчова: ці гэта асвойваньне цаліны, ці тоцуд кукурузы, не даюць пажаданых вынікаў. Карацей кажучы, эканоміка Савецкага Саюзу, якая ледзь ліпіць у нармальным часе, ня вытрымала-б цяжкіх вымогаў ваеннага высілку.

Труднасьці савецкай эканомікі яшчэ пабольшвае кітайская праблема. Хаця крамлёўскай дыктатуры ня вельмі цяжка было асвоіць кітайскага дракона, ня так аднак лёгка яго выкарміць. Нязьлічаныя запасы, выціснутыя з калгасьніка й работніка, ідуць на мантаваньне кітайскай ваеннай машыны, якая ўсё-ж яшчэ далёка негатова.

Можна было-б знайсьці яшчэ шмат сымптомаў слабасьці камуністычнага блёку, аднак, думаем, што вышэй сказанага хопіць, каб зразумець прычыны, якія змусілі крамлёўскіх дыктатараў спыніць сваю агрэсыўную палітыку да больш адпаведнага мамэнту.

Апрача гэтых нутраных слабасьцяў, да зьмены тактыкі камуністых спрычынілася палажэньне, якое за апошні час вытварылася на Захадзе. Калі заходні сьвет быў нескансалідаваны, а ягоныя мэты і тактыка была наскаардынаваныя, савецкія дыктатары маглі сабе пазваляць на шантаж, правакацыі, а нават брутальную агрэсію, як, напрыклад, карэйская вайна. Аднак нагласьць камуністых мусіла выклікаць на Захадзе адпаведную рэакцыю. Вынікам гэтага была кансалідацыя вольнага сьвету, парыскія пагадненьні, Заходня Эўрапэйскі Саюз і сувэрэннасьць Заходняй Нямеччыны. Выявілася, што гутарка з камуністымі з гэтак званай «пазыцыі сілы», якую так лае савецкая прапаганда, пачала даваць добрыя вынікі. Бо толькі сілу цэняць савецкія бязпрынцыпныя дыктатары і толькі яе баяцца.

Усё гэта зусім зразумелае, чаму камуністыя зьмянілі тактыку. Цяжэй аднак зразумець заходніх дыпляматаў, якія зрабілі такую ветлівасьць і ў найменш адпаведным часе пайшлі насустрач падступным плянам Хрушчова, Булганіна й супалкі.

Калі яны спадзяюцца ўдзячнасьці з боку камуністых, дык можна згары быць пэўным, што балюча расчаруюцца. . .

**пс**

# 13-я угодкі сьмерці Янкі Купалы

**Сыднэй (Аўстралія).** Стараньнем Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія) былі зарганізаваныя 13-я ўгодкі трагічнай сьмерці нашага слаўнага песьняра Янкі Купалы. Урачыстасьць распачалася абедняй, якую ласкава адслужыў Яго Прэасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей у асысьце настаяцеля Першага Прыходу БАПЦарквы ў Сыднэі а. Б. Зялінскага і з удзелам прыхадзкога хору. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць стараньні харыстаў і прыгожае чытаньне Апостала сп-ром Корзунем. У сваёй пропаведзі Яго Прэасьвяшчэнства усхвалёвана падзяліўся з прысутнымі весткай аб 4.300 праваслаўных Грэкаў на чале з двума духоўнымі, якія ў траўні месяцы ў Адэляідзе папрасілі Яго прыняць іх у сваю юрысдыкцыю.

Пасьля абедні была адслужана ўрачыстая паніхіда за супакой душы вялікага беларускага Песьняра і ўсіх, хто згінуў у змаганьні за волю беларускага народу.

На супольным традыцыйным пачастунку сабралася каля 70 асоб, якім быў прачытаны д-рам Я. Малецкім даклад пра Янку Купалу. У дыскусіях, гутарках і песьнях прыемна правяла беларуская грамада рэшту часу.

За арганізацыю ўгодкаў належыцца шчырая падзяка сп. сп. Старшыні БАНПВ, Г. Левановічу, Гавенчыку і чатыром маладым дзяўчатам, што з такой мілай руплівасьцяй абслугоўвалі гасьцей.

Пры гэтым варта зацеміць, што грамада Беларусаў на гэтай урачыстасьці магла-б быць значна большай, калі-б не неапраўданая адсутнасьць асабліва некаторых нашых інтэлігэнтаў, што пачынаюць абростаць ляной шкурай.

**Я. Лаўрыновіч**

# Даклад аб Беларусі

(Зь дзейнасьці беларускіх студэнтаў у Гішпаніі)

**Мадрыд.** Сёлета 26 ліпеня ў Усходнім Інстытуце ў Мадрыдзе сп. Я. Сурвіла, супрацоўнік вышменаванага Інстытуту, прачытаў абшырны даклад аб Беларусі. Аўдыторыя складалася з сэмінарыстаў розных сэмінарыяў Гішпаніі, якія прыехалі ў Мадрыд на спэцыяльны летні курс, зарганізаваны для іх Усходнім Інстытутам.

Пасьля рэфэрату й ажыўленай дыскусіі адбыўся канцэрт беларускіх песьняў і музыкі з плітак.

**Я. С.**

# Урачыстая беларуская багаслужба у Мюнхэне

Такая нагода бывае рэдка. Таму тым больш прыемна, калі яна здараецца. Трох сьвятароў (паважаныя айцы Л. Гарошка, Ч. Сіповіч і Ул. Салавей), стройны нэф царквы сьв. Паўла із звонкім рэзанансам і невялічкі хор. А там далей група Беларусаў, мюнхенскія і прыежджыя, і ладная колькасьць зацікаўленых Немцаў. Удзел Беларусаў у шостай навуковай канфэрэнцыі Інстытуту, што адбылася ў Мюнхэне ў днёх ад 28 да 30 ліпеня, быў скарыстаны таксама для супольных сустрэч, гутарак і малітвы. У нядзелю 31 ліпеня была адслужана ўрачыстая багаслужба ў саслужэньні трох вышэйменаваных сьвятароў.

І гэтым разам, як звычайна, пасьля лёгкае трывогі за прабег багаслужбы, фактычна, за ўдачу хору, людзі выходзілі з царквы з тэй прыемнай і неабходнай кажнаму з нас духовай палёгкай, якую прыносіць нам супольная малітва.

**Янка З.**

# Аб некаторых словах і хормах...

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

**мы**, другое — полёнізм. Мае быць: На вяршалінах **найвышшых** соснаў робяць свае гнёзды **дзярлівыя** птушкі (або: птушкі — **дзяруны):** падорлікі **каршуны. Дзярун, дзярлівы** ў прыведзеным значаньню запісаныя ў Др. п.

«Прамень — полёнізм, што відаць із фонэтыкі гэтага слова. Паблр. ў значэньню пол. «промень», рас. «луч» ёсьць: **каса, коска, касуля, касьнік.** Касьнік у гэтым значэньню запісаны ў Смаленшчыне. У Аш. п. касьнікам завуць істужку, уплеценую ў касе; у Смаленшчыне такую істужку завуць **укосьнік.**

«Турбота» — пол. барбарызм, паблр. — **клопат.** «Я хадзіла **ўстурбованая»** — барбарызм, паблр. — **заклапочаная.**

«Выняў з нутраной кішэні **курткі** палачку» — русыцызм, паблр. **кулёк.** Мае быць:
барбарызм, паблр. — **заклапочная.**

Выняў з **нутраной кішані кулька** пруточак (або ражэнчык).

Зварочваемся да карэспондэнтаў і **дапішчыкаў** з просьбаю». Пачэску «допіс» азначае ліст (да кагось). А дзеля таго, што корэспондэнцыі ёсьць нічым іншым як лістамі корэспондэнта для газэты, часапісу, то й корэспондэнцыю завуць «допіс». З гэтага Украінцы пад уплывам расейскім зрабілі «дапішчык», але, здаецца, ужо перасталі яго ўжываць. З гэтага відаць, што мы, «дапішчыка» не патрабуем, стане нам «корэспондэнта», а калі хочам адцеміць, што маем наўвеце аўтара лісту да рэдакцыі, дык так і назваць — «аўтары лістоў» або «пішучыя лісты да рэдакцыі».

«У мінулым годзе». «Мінулы» — слова беларускае. Кажам «Мінулыя гады, у мінулых гадох», але «у мінулым годзе» ня ёсьць пабеларуску; трэба сказаць **летась.** Таксама кажацца **леташні** год (а ня «мінулы год»).

(Паказаць) «што Бэрыя абставіў паліклініку агентамі сьветнага капіталу, цераз якіх **быць можа** кантактуецца «з пэўнымі «шпіёнамі». «Быць можа» папольску, «может быть» парасійску, а пабеларуску толькі **можа.**

«Маліся, каб вера твая была моцнай, вядзі **паводле** яе **наказаў** сваё жыцьцё».

**Наказ** пабеларуску азначае «паведамленьне із зычэньням, каб штось сталася». Такое-ж значэньне мае дзеяслоў **наказаць, наказаваць.** Гэтак дзяцюкі наказуюць адны адным на вясельле, на ігрышча. Можна наказаць на работу, на пахоў. «Наказалі, што маці хворая», зн. паведамілі, маючы наўвеце, што захоча даведацца маці. Разгляданая проказь мае быць гэткая: . . .вядзі **подле яе загадаў** сваё жыцьцё.

«Бог . . .у апошнія гэтыя дні прамовіў да нас праз Сына, якога паставіў за **наследніка** ўсяго». Паблр. **насьледнік** — гончы сабака, што бяжыць па сьлядох зьвярыны. Мае быць гэтак: Бог . . . ў **вапошнія** гэтыя дні прамовіў да нас **праз** Сына, якога паставіў за **наступніка** ўсяго.

«Гісторыя некаторых людзей **наглядна** даказвае. . .» Як выясьнена ў но. 28/258 «Б», блр. словы **нагляд, наглядаць, наглядны** і п. адказуюць рас. «надзор, надсмотр, надзиратель» і г. д., а прыведзеная проказь мае быць гэткая: Гісторыя некаторых людзей **паглядна даводзе.**

«Гэта адбылося ў школе на **перапынку** (паміж лекцыяў).» Перапынак паміж лекцыяў завецца паблр. **пагулянка,** а ў шыршым значэньню «пагулянка» адказуе рас. «развлечение», пол. «розрывка». Праз **гуляць, пагулянка** і пад гл. «Групы словаў» («Б», но. 35/114).

«Гэта **аблягчыць у значнай** меры працу». Польскаму «значны», рас. «значительный» адказуе блр. **значны** = рас. «заметный». Мае быць: Гэта **ладне палягчыць** (альбо: палягчыць у ладнай меры) працу.

«Дапамога, дапамагаць» — полёнізмы, паблр. ёсьць **памога памагаць, паможны** (а не «дапамаговы») **беспаможны.** Працуючым пабеларуску выказуюць зычэньне словамі **«Памажы Божа!»** а папольску — «Божэ допомуж!».

«Княжа вялікі маскоўскі, **памятай,** што дзіда літоўская стаяла пад Масквою!» Гэтая фраза ўзятая з павесьці праз паход Альгердаў на Маскву, але ў павесьці ёсьць **паматуй.** Дыкжэ блр. дзеясловам ёсьць **памятаваць, памятую** і толькі ў невялічкай часьці заходняй кажацца «памятаць, матчыма з мовы польскае. «Памятаваць» ёсьць аднэй з чысьленных хормаў у старабеларускай мове літаратурнай. Прывяду яшчэ прыклады: Памятуй, чалавеча, на тыя кары, як грэшнае цела твае паложаць на мары (зь песьні). Нсл. 281. Учора я ня быў п'яны і памятую кажнае слова. Люціч («Б». 1953, но. 31—32, б. 6). Беларускім ёсьць таксама **помнець** (помню, помніш).

«Запытаць» — полёнізм, у блр. мове найбалей пашыраным ёсьць **папытаць, -ца,** радзей сустракаецца **спытаць, -ца.** Таксама блр. словам ёсьць **пытаньне,** а **запытаньне** — полёнізм.

«Бронік **вырашыў:** адвучыць яго» — русыцызм, бо ўтворана (хіба Украінцамі) ад рас. «решать», паблр. ёсьць **наважыць** і мацнейшае — **пастанавіць.**

«Не, ня ўсё, — **рашуча** схапіў яго Бронік за плячо». Такі-ж русыцызм, паблр. — **станаўко.**

Чаму ты так **упэўнены»** — русыцызм, бо блр. **пэўны** зьмененае подле рас. «уверенный». Мае быць **пэўны.**

(Далей будзе)

**Я. Станкевіч**

# Яя хвабрыкуюцца савецкія нарысы

(«ЗЬВЯЗДА», 29. 6. 55)

У паштовае аддзяленьне Жарабковічы Ляхавіцкага раёну прыйшоў чацьвёрты нумар часапісу «Маладосьць». Ён прынёс многа зьдзіўляючага для маладых чытачоў. Справа ў тым, што адзін з нарысаў часапісу, ілюстраваны фотоздымкамі А. Дзітлава, прысьвечаны жыцьцю тутэйшага калгасу імя Сталіна. Аўтар нарысу Р. Сабаленка ўзьнёсла і не шкадуючы слоў апавядае пра посьпехі хлеваробаў на веснавой сяўбе.

У сапраўднасьці-ж калгас у гэты час яшчэ толькі зьбіраўся сеяць. Карэспандэнты часапісу пусьцілі ў ход фантазію.

У час іх наведаньня сядзібы калгасу тут сартавалі авёс. Маладая калгасьніца Вольга Арэшка пераводзіла яго з аднаго сьвірна ў другі. Шчоўкнуў фатаапарат і ў часапісе зьявілася фото з такім подпісам: «Вольга Арэшка нагрузіла поўныя драбіны мяхоў з насеньнем і павезла на поле».

Затым госьці зайшлі ў сельскі Дом культуры. Апісаньне яго таксама не абыйшлося бяз выдумкі. Бібліятэкар Н. Грамак, вядомая як дрэнны работнік, стала пад пяром аўтара нарысу добрым масавіком, энэргічным работнікам. У нарысе гаворыцца, што Надзея, адабраўшы пяць бібліятэчак-пересовак, пайшла ў брыгады. На самой жа справе бібліятэка мае толькі дзьве перасоўкі — у вёсках Яцкаўшчына і Вастрэйкі і перадае туды кнігі для першай перасоўкі праз калгаснага рахункавода Надзею Глобаж, для другой — праз зьлівача малака Маеўскую. Сама бібліятэкар у аддаленых брыгадах ня бывае.

Вынікам вольнай фантазіі зьявіліся і шмат якія іншыя факты, пададзеныя ў нарысе. У ім гаворыцца, напрыклад, аб рабоце кукурузаводчага зьвяна Ніны Кевель. У сапраўднасьці-ж Ніна Кевель ня толькі не працуе зьвеньнявой, але і не зьяўляецца членам зьвяна.

### АСАБІСТАЕ

Д-ра мэдыцыны Я. Малецкага ў сувязі зь ягоным памысным заканчэньнем эгзамінаў на Сыднэйскім Унівэрсытэце ды атрыманьнем поўным лекарскіх правоў шчыра вітаем, жадаючы яму шмат удачаў як на ніве працы фаховай, так і ў дзейнасьці грамадзкай на карысьць нашага вызвольнага руху.

**Выдавецтва й рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# «Бюлетэнь ЗМБ у Клыулэндзе № 1»

У кажнага з нас ёсьць мноства знаёмых і сяброў бадай ува ўсіх краёх расьсяленьня беларускае эміграцыі. Лучнасьць міжсобку й весткі аб нашых параськіданых сяброх забясьпечвае нам ня зусім рэгулярная і часам з такой натугай падтрымоўваная прыватная карэспандэнцыя ды прыпадковыя сустрэчы, пры якіх нам расказваюць аб жанімствах, аб заканчэньні студыяў, аб адслужэньні арміі й г. д. У нашых прыватных лістох, прыкладам, часта, калі не заўсёды, можна знайсьці весткі, што ЗБВБ робіць тое, а ЗБК займаецца гэтым, а ў ЗБ . . здарылася наступнае. Таму й бюлетэнь кажнае арганізацыі зьяўляецца нам да пэўнай ступені даўгачаканым прыватным лістом, дзе мы сустракаем і старых і новых сяброў.

«Бюлетэнь Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Клыўлэндзе» на сваіх шасьці бачынках акуратна афармленага рататарнага друку расказвае нам шмат аб чым. Тут можна прачытаць пра гадавую дзейнасьць клыўлэндзкага аддзелу ЗБМА, пра прабег гадавога сходу моладзі ў Клыўлэндзе, пра пэрыпэтыі падарожжа з канцэртам у Дэтройт, міжнародныя выступленьні й падобнае. Тут-жа падаецца «Бягучая хроніка аддзелу», «Гумар» (навет свой собскі, як тая «Беларуская моладзь у Амэрыцы»), купальская песьня з нотамі й тэкстам ды шэраг абвестка, якія могуць (і павінны!) зацікавіць кажнага з нас.

У сувязі з выхадам «Бюлетэню ЗБМ у Клыўлэндзе» хацелася-б выказаць колькі пажаданьняў:

1) Вітаючы ініцыятыву кіраўніцтва клыўлэндскага аддзелу ЗБМ, цікава было-б даведацца і пра жыцьцё іншых аддзелаў беларускае моладзі ў Амэрыцы.

2) Пры рэдагаваньні падобных бюлетэняў, прызначаных першым чынам для адтварэньня поўнага вобразу жыцьця арганізацыі ці групы для тых Беларусаў, якія дзесьці далёка цікавяцца гэтым, ня варта цурацца інтымнага ўняцьця ўсіх падаваных вестак, так вось як гэта робім мы ў нашых звычайных лістох, дзе мы апісваем сябру свае собскія перажываньні й падзеі вакол нас. Тыпічным такім інтымным штрыхом у амаўляным нумары «Бюлетэню» зьяўляецца, прыкладам, вестка пра прыезд Сяргея Лк'янчыка з Швэцыі да бацькоў у ЗША. Кажнаму, хто ведаў цяжкія перажываньня бацькоў Сяргея, гэтая вестка будзе запраўднай палёгкай.

Лучнасьць міжсобку зьяўляецца для нас сяньня аднэй з найважнейшых праблем. Згубіцца й загубіцца ў гэтым мітусьлівым сьвеце няцяжка. І мы ідзем з думкай увесь час трымацца разам. Калісьці, прыгадваецца, калі шмат каму з нас прыходзілася таўчы балота ў шматтысячнай масе ваеннапалонных, адзін з нас узносіў над сабой сьцяг і рэшта кіравалася на яго ў чужым натсўпе. Цяпер гэтым сьцягам у шырокім сьвеце павінна для нас быць **вестка** аб жыцьці сябры, якая будзе заўсёды падбадзёрваць нас тым, што мы не пагубляліся, што мы жывем аднымі імкненьнямі, у ваднэй сям'і і прагнем такімі застацца.

Таму выхад у сьвет і разыход па гэтым сьвеце першага нумару «Бюлетэню» аддзелу ЗБМ у Клыўлэндзе трэба толькі шчыра прывітаць ды пажадаць ягоным выдаўцом і рэдактарам як найлепшых удач у будучай працы.

**Я. Запруднік**

### ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» з-за тэхнічнага недагляду ўкралася прыкрая памылка ў вартыкуле сп-ра В. Жука «Самабытнасьць творчасьці Янкі Купалы», дзе мусіў быць паданы дзе паясьняльны падзагаловак «З радыёвай хвалі «Вызваленьня», што мы робім, нажаль із спазьненьнем, на гэтым месцы, перапрашаючы адначасна Паважанага Аўтара артыкулу.

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.